Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 19 сакавіка 1999 г. | № 30 (561) | Кошт свабодны

## Стрэлы ля адміністрацыі

**У сераду ў цэнтры Мінска адбылося надзвычайнае здарэнне. Прыкладна ў 11 гадзінаў 40 хвілінаў уздоўж будынка адміністрацыі прэзідэнта па вуліцы Кірава праязджаў грузавік ЗІЛ, кіроўца якога выхапіў стрэльбу і праз дах кабіны зрабіў два стрэлы ў паветра, пасля чаго з'ехаў з месца здарэння.**

Расійскія сродкі масавай інфармацыі адразу паспяшаліся абвясціць здарэнне ледзь не тэрарыстычным актам. Але вось што нам паведамілі ў прэс-службе беларускага МУС.

Адзін з супрацоўнікаў Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы, які вартаваў будынак «прэзідэнцыі», стаўся сведкам здарэння і нават запомніў дзяржнумар аўтамашыны — 1403 КР. Па тэлефоне 02 ён паінфармаваў пра «тэрарыста». Міліцыя хутка вылічыла ўзброенага кіроўцу — гэта быў уладальнік ЗІЛа, 44-гадовы прыватны прадпрымальнік Валянцін Цыбульскі. Аператыўная група выехала на затрыманне дадому да прадпрымальніка, у завулак Лугавы. Але В.Цыбульскі ўжо паспеў забарыкадавацца ў сваім прыватным доме і, пагражаючы стрэльбай, запатрабаваў прадставіць яму спецыялістаў, якія б знайшлі сакрэтную апаратуру, нібыта схаваную супрацоўнікамі КДБ у ягоным доме, замяніць вулічныя ліхтары, бо з іхняй дапамогай за ім вядзецца назіранне, а таксама ўзяць пробы «атручанай» вады, якая вельмі кепска ўплывае на ягонае здароўе.

Як паведаміў нам начальнік Ленінскага раённага ўпраўлення міліцыі Васіль Клюйко, перамовы з «тэрарыстам» вяліся больш за тры гадзіны. Але калі ён убачыў, што ідзе падрыхтоўка да штурму дома, то палічыў за лепшае здацца. Па словах Васіля Клюйко, В.Цыбульскі не стаяў на ўліку ў псіхіятрычным дыспансеры. Але цяпер, натуральна, яго чакае экспертыза. Сам затрыманы знаходзіцца ў СІЗО.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Патоп на Беларусі

У Брэсцкай, Гомельскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай абласцях паводкай затапіла 172 населеныя пункты. З зоны бедства адселены 1.259 чалавек.

«Ахвяраў і разбурэнняў пакуль няма», — сцвярджаюць у міністэрстве па надзвычайных сітуацыях. Аднак, напрыклад, у Брэсцкай вобласці патанула каля 20 галоў хатняй жывёлы (авечкі, карова і свінні). Хатняя птушка наогул застаецца на затопленых тэрыторыях. Застаюцца пакінутыя хаты, з якіх вывезена толькі самае каштоўнае. Жыхары, адселеныя да сваякоў і знаёмых, баяцца марадзёрства.

Часам дапамога да ахвяраў паводкі прыходзіць не адразу. Сям'я Савіцкіх з вёскі Угалец Столінскага раёна начамі не спала, апасаючыся, што крыгі знясуць хату і гаспадарчыя пабудовы. Зрэшты, не ўсе палешукі пагаджаюцца некуды перасяляцца. Многія прызвычаіліся да стыхіі, як да нейкай балячкі. Кожны год рэкі ў большай ці меншай ступені праяўляюць свой характар, і падворкі залівае вадой. Хата




ёсць хата, нават калі вада паднялася вышэй падлогі. Ды і невядома, калі эвакуіраваныя змогуць вярнуцца назад. Як толькі вада адступіць, улады зноў забудуцца пра людзей. Толькі ў час стыхіі чыноўнікі ўзгадваюць, што ў тым жа Столінскім, Лунінецкім і Пінскім раёнах толькі напалову выкананая праграма па ўзвядзенні ахоўных збудаванняў на вадаёмах, а многія дамбы так састарэлі, што не вытрымліваюць напору вады. Ніхто не дбае пра сем'і, якія штогод падтапляе. Ці не таней урэшце патрацець сродкі на будаўніцтва жылля і перасяліць іх з паводканебяспечных участкаў?

Выратавальныя службы ў разгар стыхіі падмацоўваюць дамбы, ствараюць запасы прадуктаў харчавання, медыкаментаў і гумовых ботаў для пацярпелых. Сапёры падрываюць заторы лёду. Учора яны працавалі каля вёскі Рубель у Столінскім раёне, дзе пад пагрозай разбурэння аказаўся драўляны мост, які злучае два населеныя пункты. Сапёры ачышчалі ад крыгаў таксама раку Арэсу. Аднак цяпер людзей цікавіць, хто ім аплаціць кампенсацыі за страчаную альбо пашкоджаную маёмасць. Толькі для таго, каб кампенсаваць страты, на Брэстчыне ўжо патрабуецца каля ста мільярдаў рублёў, а пік паводкі яшчэ наперадзе.

У Белдзяржстраху карэспандэнту НАВІНАЎ паведамілі, што пасля паводкі пачнецца падлік урону, нанесенага стыхіяй. Аднак пацярпелыя змогуць атрымаць толькі палову ад сумы стратаў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Вобыск на кватэры старшыні Цэнтрвыбаркама

**У аўторак а 16 гадзіне ў кватэру старшыні Цэнтрвыбаркама Віктара Ганчара ўварвалася каля 15 міліцыянтаў і невядомых людзей у цывільным.**

Гаспадыня чакала сына Андрэя, які павінен быў прыйсці з крамы, і таму адчыніла дзверы. Незнаёмыя з крыкамі «Энерганагляд!» адштурхнулі жанчыну ад дзвярэй. Частка міліцыянтаў заставалася ў калідоры і на лесвічнай пляцоўцы. Па словах Зінаіды Ганчар, малойчыкі паводзілі сябе вельмі груба. Ёй спрабавалі скруціць рукі, засталіся нават сінякі. Потым высветлілася, што сярод няпрошаных гасцей быў следчы Ляўковіч з гарадскога ўпраўлення ўнутраных справаў, які вядзе расследаванне супраць старшыні ЦВК па крымінальнай справе за нібыта «самавольнае прысвяенне звання альбо ўлады службовай асобы».

Віктар Ганчар размаўляў па тэлефоне. Следчы Ляўковіч вырваў з рук гаспадара тэлефонную трубку, а ягоная група пачала ў кватэрыператрус, які цягнуўся каля 40 хвілінаў. Міліцыянты рыліся нават на кухні і ў шафах з бялізнай. Аднак знайшлі яны толькі прэзрэлізы, апублікаваныя ў друку — гэтыя паперы ляжалі на стале. Даваліся іх канфіскаваць, каб не сысці з кватэры з пустымі рукамі. У пратаколе канфіскацый па патрабаванні гаспадара кватэры быў зафіксаваны факт нанясення міліцыянтамі цялесных пашкоджанняў гаспадыні. Акрамя таго, Віктар Ганчар выказаў сумненне, што коратка стрыжаныя малойчыкі, якіх міліцыянты прывялі ў якасці панятых, сапраўды з'яўляюцца панятымі — незацікаўленымі асобамі ў гэтай справе.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Сакрэтны план супраць апазіцыі?

*Цікавы тэкст трапіў у НАВІНЫ. Гэта нейкі план супрацьдзеяння «групе лідэраў радыкальнай апазіцыі па падрыхтоўцы антыпрэзідэнцкіх выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». Калі гэты «дакумент» сапраўдны і ён будзе рэалізаваны, нашай апазіцыі мала не пакажацца.*

■ Создать республиканский штаб (закрытого характера) при Министерстве юстиции для юридичес...

...ускорить рассмотрение и принятие Указа Президента "О порядке сношения диппредставительств с Министерством иностранных дел и местными органами власти";

■ -- выявлять источники и каналы финансирования и иной материальной поддержки указанных нелигитимных структур и пресекать их ...

...законодательных решений руководством страны;

■ -- Министерству юстиции во взаимодействии с правоохранительными органами разработать проект Декрета Президента Республики Беларусь "О противодействии политическому экстремизму";

...не допустить перерегистрации радикально и экстремистски ориентированных общественных формирований. Комитету госбезопасности использовать данную ситуацию с целью разложения и копроментации указанных структур;

Згодна з гэтай паперай, на апазіцыю нацкуюць шэраг ведамстваў, у першую чаргу КДБ і пракуратуру. Ім, быццам бы, загадваецца «ажыццявіць меры папярэджання і прафілактыкі» супраць сябраў Цэнтрвыбаркама. Прапанаваны таксама цэлы шэраг захадаў супраць палітычных партыяў і іншых «апазіцыйных структураў». Найперш збіраюцца перакрыць «каналы фінансавання» апазіцыі. Зрабіць гэта плануюць з дапамогай мытнікаў, фінансавых і падатковых органаў. Каб выбары не «спансіравалі» ўнутраныя добразычліўцы, міністэрству прамысловасці і мясцовым вертыкальшчыкам рэкамендавана тэрмінова ўзмацніць рэжым аховы сваіх прадпрыемстваў. «Недапушчальным» называецца прадастаўленне апазіцыянерам памяшканняў у арэнду ці хаця б для правядзення сходаў. Міністэрству сувязі, згодна з «дакументам», будзе катэгарычна забаронена выдзяляць штаб-кватэрам апазіцыйных партыяў дадатковыя тэлефонныя нумары.

Аўтары «дакумента» не выключаюць, што прыйдзецца «разбірацца» нават з замежнымі дыпламатамі. Прадугледжана накіраваць ноты тым краінам, якія выкажуцца ў падтрымку травеньскіх выбараў. Гэтыя краіны прапануецца абвінавачваць ва ўмяшальніцтве ва ўнутраныя справы Беларусі. У якасці магчымых атрымальнікаў такіх нотаў у дакуменце фігуруюць ЗША і краіны Еўрасаюза. Але нашыя стратэгі добра разумеюць, штоаднымі заявамі бітву не выйграць, і рыхтуюць замежным паслам прыгоды пацікавей за іхнія бедствы ў «Драздах». Згодна з дакументам, неўзабаве будзе прыняты прэзідэнцкі ўказ з рабочай назвай «Аб парадку зносінаў замежных прадстаўнікоў з міністэрствам замежных справаў і мясцовымі органамі ўлады». Гэты ўказ павінен ўвесці такі ж кантроль за паездкамі дыпламатаў па Беларусі, які калісьці існаваў у Савецкім Саюзе, за «жалезнай заслонай».

Ці атрымаецца ў беларускіх уладаў узяць на кароткі павадок замежных дыпламатаў — яшчэ невядома, а вось ускладніць жыццё палітычным партыям нашай краіны, калі сакрэтны «план» будзе выкананы да канца, яны сапраўды змогуць. У прыватнасці, адзін з пунктаў «плана» прадугледжвае прамы загад міністэрству юстыцыі не дапусціць перарэгістрацыю «радыкальных і экстрэмісцкіх структураў». Як вядома, працэс перарэгістрацыі партыяў ужо пачаўся і павінен скончыцца 1 ліпеня. На сённяшні дзень мінюст ужо вынес афіцыйныя папярэджанні БНФ, АГП і Хельсінкскаму камітэту, што з'яўляецца падставай для адмовы ў перарэгістрацыі. Пры жаданні міністэрства юстыцыі можа ўжо рапартаваць, што сваю частку «плана» яно выканала.

А вось іншым структурам яшчэ давядзецца «папацець». І асаблівая цяжка прыйдзецца Камітэту дзяржаўнай бяспекі, які, згодна з «дакументам», павінен «выкарыстаць сітуацыю з мэтай разлажэння і кампраметацыі» апазіцыйных структураў.

Каб удакладніць атрыманую інфармацыю, мы звязаліся з аддзелам КДБ па сувязях з грамадскасцю. Кіраўнік гэтага аддзела палкоўнік Фёдар Котаў заявіў карэспандэнту НАВІНАЎ, што КДБ дзейнічае ў межах закона, з экстрэмізмам таксама змагаецца законным шляхам, у тым ліку і з дапамогай усебаковага вывучэння сітуацыі ў арганізацыях, «вядомых як экстрэмісцкія». Што ж тычыцца загадаў «разлагаць і кампраметаваць», палкоўнік пра гэта не чуў, і ўвогуле пра падобны дакумент нічога не ведае.

Тое ж самае НАВІНАМ заявіў і намеснік сакратара Савета бяспекі Анатоль Тозік. Каб патлумачыць яму, чаму мы шукаем карані «дакумента» менавіта ў гэтай установе, прыйшлося спасылацца на апошні абзац гэтага тэксту, дзе ведамствам прадпісваецца «штотыднёва інфармаваць Савет бяспекі ў мэтах выкарыстання магчымасцяў органаў улады і кіравання для блакіравання антыканстытуцыйных спробаў правядзення альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбараў». Каментаваць гэтую цытату Анатоль Тозік не стаў і заявіў: «Не выключана, што ваш дакумент — фальшыўка».

Між тым, мяркуючы па апошніх падзеях, сцэнар, які выкладзены ў гэтай «фальшыўцы», ужо выконваецца.

**Алег ГРУДЗІЛОВІЧ**



### ЦЭНЫ

Паводле дадзеных міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, за першы тыдзень сакавіка спажывецкія цэны ў краіне ўзраслі на 5,6 працэнта.

Такім чынам, з пачатку года спажывецкія цэны павялічыліся ўжо на 40 працэнтаў. Для параўнання: у сакавіку 1998 года рост спажывецкіх цэнаў склаў 3,3 працэнта.

*БелаПАН*



**Знаходзячыся ў паездцы па Віцебскай вобласці, прэзідэнт Лукашэнка даў зразумець, што не дапусціць прэзідэнцкіх выбараў, прызначаных Вярхоўным Саветам. Усім, хто не прызнае канстытуцыю 1996 года, прэзідэнт Лукашэнка паставіў у прыклад Зянона Пазьняка, які з'ехаў у ЗША. *«Калі не прызнаеце канстытуцыю, то вам трэба ехаць у Амерыку. Вось як Пазьняк — ён паехаў і жыве там, прызнае тую Канстытуцыю. Але тут народ гэтую канстытуцыю вызначыў, і мы прымусім ёй падпарадкоўвацца»*, — сказаў ён.**

# Дыялог пры ўмове прэзідэнцкіх выбараў

**Уплывовыя міжнародныя арганізацыі заклікалі прэзідэнта Лукашэнку пачаць перамовы з апазіцыяй, каб знайсці палітычнае выйсце з канстытуцыйнага крызісу, які пачаўся ў нашай краіне пасля апошняга рэферэндуму.**

У прэсе згадваецца праект, распрацаваны кансультатыўна-наглядальнай групай АБСЕ ў Мінску. Згодна з ім, мяркуецца правесці перамовы «чатыры плюс адзін»: чакаецца, што з боку ўлады за стол перамоваў сядзе прэзідэнт Лукашэнка, а апазіцыю будуць прадстаўляць старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар і два прэтэндэнты на пасаду кіраўніка краіны — Зянон Пазьняк і Міхаіл Чыгір. Кіраўнік місіі АБСЕ Ханс-Георг Вік заявіў журналістам, што не хоча, *«каб сітуацыя абвастрылася ў сувязі з прызначанымі прэзідэнцкімі выбарамі»*, таму прапануе прэзідэнту і апазіцыі пачаць перамовы.

Учора на брыфінгу для журналістаў міністр замежных справаў Урал Латыпаў сказаў, што пакуль не ведае пра такі праект групы АБСЕ. На ягоную думку, у дыялогу з апазіцыяй павінны ўдзельнічаць дзяржаўныя чыноўнікі больш нізкага ўзроўню, бо ў прэзідэнта, маўляў, вельмі шмат іншай работы. Па словах У.Латыпава, *«праблема выбараў не паляпшае нашых адносінаў з Захадам»*.

Ён выказаўся таксама супраць ізаляцыі нашай краіны на міжнародным узроўні. Міністр лічыць, што *«ў нас няма масавых парушэнняў правоў чалавека»* і Беларусь з'яўляецца нармальным, спакойным партнёрам Еўрапейскага саюза. Аднак, на думку У.Латыпава, Еўрасаюз перад рэферэндумам поўнасцю стаў на бок дэмакратычных сілаў ва ўнутрыпалітычнай спрэчцы, а ў гэтым пытанні не можа быць ніякіх асобых уступак, бо канстытуцыя працуе і не патрабуе ніякага міжнароднага пацвярджэння. Старшыня камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Савета рэспублікі Мікалай Чаргінец сказаў карэспандэнту НАВІНАЎ, што «апазіцыя — гэта нашыя людзі, і ўсе мы дзеці Беларусі». Старшыня камісіі лічыць, што перамовы з апазіцыяй можна было б пачаць у траўні і, на ягоную думку, без пасрэдніцтва міжнародных арганізацыяў. *«Спачатку трэба разабрацца, што нас аб'ядноўвае, а потым — што падзяляе»*, — сказаў М.Чаргінец.

Мы пацікавіліся і думкай апазіцыянераў. Як сказаў Віктар Ганчар наконт перамоваў, да яго яшчэ ніхто афіцыйна не звяртаўся, але яны *«могуць адбыцца пры безумоўным выкананні прэзідэнтам Канстытуцыі 1994 года без змяненняў, унесеных у 1996 годзе»*. Міхаіл Чыгір паведаміў, што ён не супраць перамоваў. *«Але калі мы сядзем за стол для дыялогу, збор подпісаў і падрыхтоўка да травеньскіх прэзідэнцкіх выбараў будзе працягвацца. Мы не адступім ад гэтага ні пры якіх умовах»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Адны збіраюць, другія адбіраюць

**Па Беларусі працягваецца збор подпісаў за кандыдатаў у прэзідэнты Міхаіла Чыгіра і Зянона Пазьняка. Да 25 сакавіка ініцыятыўныя групы павінны прадставіць у Цэнтрвыбаркам не менш за 100 тысяч подпісаў грамадзянаў у падтрымку сваіх кандыдатаў.**

Як нам паведамілі ў перадвыбарчых штабах абодвух прэтэндэнтаў, збор подпісаў ідзе даволі паспяхова. Так, група Міхаіла Чыгіра сабрала ўжо больш за палову ад неабходнай колькасці аўтографаў выбаршчыкаў. Актывісты з каманды Зянона Пазьняка таксама сабралі некалькі дзесяткаў тысяч подпісаў. Ініцыятыўныя групы прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла працуюць фактычна ва ўсіх раёнах Беларусі. Каманда экс-прэм'ера налічвае прыкладна 2.500 чалавек, а на лідэра БНФ працуе прыкладна 3 тысячы зборшчыкаў подпісаў. Па словах прадстаўнікоў абодвух перадвыбарчых штабоў, многія людзі разумеюць неабходнасць правядзення прэзідэнцкіх выбараў сёлета, таму збор подпісаў праходзіць паспяхова. Прычым найбольш актыўна за абранне новага прэзідэнта краіны выступаюць пажылыя людзі, пенсіянеры. Зрэшты, нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо пражыць на цяперашнюю пенсію ў 3—4 мільёны рублёў многія проста не ў стане.

Улады робяць усялякія перашкоды актывістам ініцыятыўных групаў, часам даходзіць да рэпрэсіяў. У Жлобіне міліцыя спыніла машыну, у якой ехалі актывісты групы Чыгіра Павел Клімовіч і Аляксей Краеў. Хлопцаў адвезлі ў пастарунак, пратрымалі 2 гадзіны. «Ахоўнікі парадку» спачатку збілі Аляксея, а пасля, канфіскаваўшы ў хлопцаў падпісныя лісты і 20 даляраў, адпусцілі. У Гомелі міліцыянты таксама забралі лісты з подпісамі ў падтрымку былога прэм'ера ў некалькіх чалавек, а кіраўніцтва мясцовай прыватнай друкарні прадстаўнікі спецслужбаў папярэдзілі аб «магчымых непрыемнасцях», калі тыя не спыняць супрацоўніцтва з камандай Чыгіра.

У Бабруйску некалькі гадзінаў правёў у пастарунку актывіст перадвыбарчай кампаніі па прозвішчы Чыгір. Прычым узялі яго не падчас збору подпісаў, а проста пільныя суседзі паведамілі ў міліцыю, што хлопец нібыта з'яўляецца сваяком кандыдата ў прэзідэнты.

У горадзе Бяроза Брэсцкай вобласці супрацоўнікі мясцовай пракуратуры пагражалі зборшчыку подпісаў крымінальнай адказнасцю, а ў Барысаве адзін з затрыманых актывістаў схаваў падпісныя лісты пад кашулю і не аддаў нават пад пагрозай ужыць супраць яго сілу. У ягонага сябра, які аказаўся не такім спрытным, міліцыя ўсё ж сканфіскавала бланкі.

Некалькі актывістаў ініцыятыўнай групы Чыгіра былі затрыманыя ў Дзяржынску, а мінчука Васіля Вінярскага, які абыходзіў дамы на сваім участку, здалі ў міліцыю супрацоўнікі прэзідэнцкай адміністрацыі. Суд, аднак, слухаць справу Васіля адмовіўся, бо ў кодэксе няма артыкула, па якім Васіля можна было б пакараць.

Па звестках з штаба БНФ, толькі ў Мінску былі затрыманыя 24 актывісты каманды Зянона Пазьняка, хапалі фронтаўцаў і ў іншых гарадах Беларусі.

У перадвыбарчых штабах Чыгіра і Пазьняка ўпэўненыя, што яны без цяжкасцяў назбіраюць патрэбныя 100 тысяч подпісаў. Пасля афіцыйнага зацвярджэння ў якасці кандыдата ў прэзідэнты лідэр БНФ мае намер вярнуцца ў Беларусь. Дарэчы, нядаўна Зянон Пазьняк звярнуўся да ўрадаў заходніх дзяржаваў з просьбай прадставіць яму гарантыі бяспекі пасля вяртання на Радзіму. Пазьняк не выключае, што беларускія ўлады паспрабуюць арыштаваць яго адразу ж на мяжы.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Пікет каля латвійскага парламента

**Учора ў Рызе прайшоў пікет каля латвійскага парламента, арганізаваны пры падтрымцы Хартыі-97.**

У ім удзельнічалі 15 студэнтаў мясцовага універсітэта, якія заклікалі дэпутатаў падтрымаць дэмакратычныя сілы ў Беларусі і запатрабаваць ад беларускіх уладаў захавання правоў чалавека і правядзенне свабодных прэзідэнцкіх выбараў. Пікетчыкі перадалі ў вышэйшы заканадаўчы орган Латвіі два лісты.

Першы — ад імя грамадзянскай ініцыятывы Хартыі-97, адрасаваны дэпутатам і ўсім дэмакратычна настроеным грамадзянам Латвіі. У ім, у прыватнасці, гаворыцца:

*«Беларусь не пакідае надзею выбрацца з таталітарнага мінулага, пабудаваць суверэнную дзяржаву, незалежную ад замахаў Расіі, вызваліцца ад жорсткай рукі дыктатара. Але сёння ў адзіночку, без падтрымкі суседзяў, скінуць гэтыя путы вельмі цяжка. Сітуацыя небяспечная не толькі для нас, прыніжаных, падманутых і пакрыўджаных. Сітуацыя небяспечная і для вас, адчуўшых смак свабоды. Жыць па суседству з нецывілізаванай краінай можа дрэнна адбіцца непажаданымі наступствамі»*.

У другім пасланні, ужо ад асабістага імя, пікетчыкі патрабавалі ад парламентарыяў больш актыўнага выказвання пазіцыі ў адносінах да беларускага рэжыму. *«У той час, як Еўрапейскі парламент прымае жорсткія заявы аб становішчы ў Беларусі, наш парламенцкі орган не праўляе ніякай ініцыятывы. І гэта пры тым, што ў Беларусі працягваюць парушаць правы чалавека і прыціскаць свабоду слова»*, — заяўляюць арганізатары акцыі.

*Прэс-цэнтр Хартыі-97*

# Сёмы месяц пад вартай

**16 сакавіка ў Віцебску пачаўся судовы працэс над вядомым актывістам апазіцыі, старшынёй віцебскай рады БНФ «Выбар» Уладзімірам Плешчанкам.**

У.Плешчанка абвінавачваецца ў дачыненні да справы аб дэмантажы бюста Суворава — супраць апазіцыянера ўзбуджаная крымінальная справа па артыкулах «злоснае хуліганства» і «знішчэнне гісторыка-культурных помнікаў».

Працэс выклікаў цікавасць у грамадскасці горада, у судовай зале Кастрычніцкага раёна не было вольнага месца. Прысутнічалі назіральнік групы АБСЕ і прадстаўнікі праваабарончага цэнтра «Вясна-96», якія выступілі ў якасці грамадскіх абаронцаў. На пачатку працэсу адвакат падсуднага і грамадскія абаронцы заявілі хадайніцтва аб змяненні меры стрымання (арышту) на падпіску аб нявыездзе. Варта нагадаць, што 50-гадовы Плешчанка ўжо сёмы месяц знаходзіцца пад вартай у СІЗО г.Віцебска. За гэты час стан ягонага здароўя значна пагоршыўся. Нягледзячы на гэта, суддзя адмовіўся задаволіць хадайніцтва і пачаў разгляд справы. Быў заслуханы намеснік начальніка Кастрычніцкага РАУС г.Віцебска Заблоцкі — галоўны сведка, па ўскосных сведчаннях якога быў арыштаваны У.Плешчанка.

На судзе У.Плешчанка заявіў, што судзяць яго не за хуліганства, а за ягоныя палітычныя погляды і актыўную грамадскую дзейнасць. Падчас працэсу нечакана высветлілася, што ў падсуднага няма абвінаваўчага заключэння. Яму выдалі толькі першую старонку заключэння, і чамусьці ў трох экземплярах. Плешчанка папрасіў сукамернікаў распісацца на старонках, каб засведчыць факт гэтага грубейшага парушэння працэсуальных нормаў. Суддзя быў вымушаны спыніць працэс. Адвакат і грамадскія абаронцы зноў заявілі аб неадкладным вызваленні Уладзіміра Плешчанкі з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе, але суд не задаволіў хадайніцтва. Працэс над палітычным вязнем У.Плешчанкам працягнецца 26 сакавіка 1999 года.

**А.Б.**

# ЛДП адумалася

**Ліберальна-дэмакратычная партыя Беларусі вырашыла спыніць свой удзел у мясцовых выбарах, прызначаных на 4 красавіка.**

У адпаведнай заяве кіраўніцтва партыі гаворыцца, што *«праводзімыя выбары не толькі фальшывыя па сваёй сутнасці, але і сфальсіфікаваныя ўжо ў самым пачатку. Парушэнняў і грубага беззаконня, шчырых здзекаў над людзьмі, якія патрабавалі сустрэчы з выбаршчыкамі, над іхнім канстытуцыйным правам, немагчыма пералічыць»*. Кіраўніцтва ЛДП лічыць, што *«прававое і канстытуцыйнае бязмежжа ў Беларусі дасягнула свайго апагею»*. У такіх умовах *«правядзенне любых выбараў пры існуючым Цэнтрвыбаркаме і выканаўчай уладзе немагчыма»*.

**М.В.**

# Багданкевіч падае ў суд

**Сёння старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч падаў у суд на Беларускае тэлебачанне. Прычына — паклёпы, якія за апошні час багата ліліся на яго адрас з экранаў БТ.**



Па апошняй модзе, уведзенай рэжымам, паклёны на С.Багданкевіча круцяцца вакол тэмы крэдытаў, якія С.Багданкевіч, калі быў старшынёю Нацыянальнага банка, нібыта раздаваў каму не трэба, у тым ліку сваім сынам. С.Багданкевіч назваў абвінавачванні *«абсалютнай лухтой»*.

*«У свой час Лукашэнка прад'явіў мне 15 абвінавачванняў*, — нагадвае С.Багданкевіч. — *Аднак генеральная пракуратура не ўзбудзіла супраць мяне крымінальную справу: нават у нашых умовах поўнай залежнасці пракуратуры ад Лукашэнкі яна не знайшла ў маёй дзейнасці складу злачынства»*.

Апошнія абвінавачванні Станіслаў Багданкевіч ахарактарызаваў як *«чарговую спробу маёй палітычнай дыскрэдытацыі спадаром Лукашэнкам і ягонымі халуямі»*. Старшыня АГП падкрэсліў, што патрэба ўладаў у дыскрэдытацыі палітычных апанентаў значна ўзрасла *«ў сувязі з пачаткам кампаніі па выбарах прэзідэнта і з давядзеннем дыктатарскім рэжымам насельніцтва Беларусі да жабрацтва.*

Судовы іск асабіста Лукашэнку прад'явіць немагчыма: прэзідэнт у нашай краіне знаходзіцца па-за дзеяннем законаў, — працягвае С.Багданкевіч. — *Таму я падаю ў суд на лёкаяў рэжыму, на Беларускае тэлебачанне, якое займаецца тыражаваннем паклёпаў і хлусні»*.

У іску С.Багданкевіч патрабуе спагнаць 1 млрд. беларускіх рублёў з тэлебачання, і па 500 мільёнаў — з супрацоўнікаў БТ Я.Дзмітрыева і А.Зімоўскага. У выпадку выйгрышу справы грошы пойдуць не на асабістыя патрэбы Багданкевіча, а на карысць партыі, якую ён узначальвае: у іску даецца разліковы рахунак АГП.

Апроч матэрыяльнага задавальнення, у сваім іску С.Багданкевіч патрабуе даць яму эфірны час на БТ для абвяржэння паклёпаў.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Игра в жмурки, или Ловля продовольствия и мигрантов

Константин СКУРАТОВИЧ

Говорят, что всякого иностранца, прибывающего в Новую Зеландию, в аэропорту Веллингтона заставляют выбрасывать в мусорные контейнеры всю привезенную с собой провизию.

И наоборот, вывоз всякого рода продтовара поощряется. Так новозеландцы защищают свой внутренний рынок и собственного сельхозпроизводителя: пускай заокеанский гость раскошелится и как можно больше купит в местных магазинах. У нас же у гостя из сопредельного государства при его возвращении на родину готовы карманы вывернуть: вдруг там завалялся десяток другой яиц. И хотя за них «уплочено», яйца будут возвращены их законнному собственнику — белорусскому государству.

## Граница должна быть

Что ни говори, правы были советские пропагандисты и агитаторы: два мира — две системы. В нашей, то есть в социалистически-рыночной, дана очередная отмашка, и на границах Беларуси силовые ведомства начали спецоперацию по отлову челноков и нелегальных мигрантов под названием «Канал-март-99». С учетом начинающегося паводка, название более чем симптоматичное. Но если вешние воды должны выйти за пределы Беларуси, не встретив по возможности препятствий на своем пути и по естественным руслам, то на пути продуктовых потоков будут воздвигаться непреодолимые преграды в виде блокпостов, мобильных заградотрядов и прочих штучек, изобретенных для пресечения поползновений граждан.

Понятно, что основные такие поползновения направлены в сторону России, с которой у нас граница, после того как Александр Лукашенко и Виктор Черномырдин вырвали пограничный столб и разослали ковровую дорожку на контрольно-следовой полосе (мы в гости к вам, а вы к нам), как таковая отсутствует. Не проще ли было наладить нормальную границу, чем бегать по кустам за нарушителями, которые на самом деле ничего не нарушают. Ведь даже советские времена дали в этом плане опыт положительный. Так, один председатель из Могилевской области на время страды, дабы механизаторы не гоняли тракторы за водкой в Российскую Федерацию, приказывал разобрать мост через пограничную канаву. А что делать, за каждым, как говорится, не уследишь.

Да и проблема нелегальной миграции при наличии нормальной границы свелась бы к простой процедуре таможенного досмотра: хороший человек, денежный, милости просим, босяк, езжай откуда приехал. А так попробуй выловить нежелательного типа, уголовного авторитета или, не дай Бог, террориста в уличной толпе. Да и импортируемых из нестабильных регионов нищих было бы на наших улицах поменьше. Принять беженцев по-людски мы не можем, того и гляди, сами по миру пойдем.




В общем граница (не железный занавес) должна быть. Представьте, что вам приходится жить в доме, в котором всего три стены — почти как на улице. Днем еще куда ни шло, хотя и снегом заносит, и дождем заливает. А ночью? Спать с топором под подушкой? Короче, четвертая стена необходима, тогда дверь перед гостями можно распахнуть хоть настеж, а тех, что «хуже татарина», и на порог не пускать.

## Лысенко от политики

По всем основным параметрам Беларусь является средней европейской страной. Чего-то у нее больше, чего-то меньше, короче, как у всех. По территории из сорока с лишним европейских стран она занимает 13-е, а по численности населения — 14-е место. Поэтому белорусы могут свысока смотреть на такие «карликовые» государства, как Австрия, Литва, Швейцария и Бельгия, которые целиком разместились бы на территории Беларуси. Народу в Беларуси живет больше, чем в таких странах, как Бельгия, Австрия, Швейцария, больше, чем в любой прибалтийской и скандинавской стране.

По плотности населения Беларуси принадлежит 7-е, а по наличию сельхозресурсов — 8-е место в Европе. Это означает, на одного нашего колхозника пахотной земли приходится больше, чем на одного фермера в подавляющем большинстве европейских стран. Поэтому, как однажды выразился Михаил Чигирь, в бытность свою премьер-министром, Беларусь может прокормить пол-Европы. Но не может прокормить даже себя.

Почему не может? А потому, что не хочет. Беларусь хочет много «социально значимой», то есть дешевой, а лучше всего бесплатной колбасы. Примерно такой, какую обещал советскому народу академик Лысенко: отрезаешь у свиньи окорок, а он регенерируется, как у ящерицы хвост. На самом же деле бесплатным бывает только ворованное. В прежние времена государство воровало продукцию у колхозов, начисляя в качестве заработной платы трудодни, сегодня — устанавливая закупочные цены ниже издержек производства. Поэтому чем больше колхоз производит, тем больший убыток несет. Кто же станет надрываться для Лысенко от политики, который, однажды пообещав всем дешевую колбасу, взлетел на вершину власти, как петух на плетень?

Поэтому производят по минимуму или не производят совсем. А с другой стороны, стоит повысить закупочные цены, чтобы хоть как-то заинтересовать колхозников, как «социально значимая колбаса» становится неподъемной для мясокомбинатов. Вот что пишет, например, корреспондент правительственнай «Рэспублікі» Владимир Зарецкий в статье под красноречивым названием «Могилевский мясокомбинат сигналит: «SOS». Вторят ему горожане»: «Новые закупочные цены на мясо привели к парадоксу: производство вареной колбасы стало крайне убыточным. Скажем, один ее килограмм высшего сорта обходится комбинату по производственным затратам в 250 тысяч рублей, а отпускная, кстати фиксированная цена составляет 170 тысяч рублей». Таким образом, 80 тысяч разницы. Понятно, за чей счет оплачивается дешевизна.

Понятно, также, что никто не склонен считать себя глупцом, тем более, что для понимания собственной выгоды хватает интеллекта и ниже среднего. Поэтому комбинат притормозил убыточное производство, в торговле исчезли варенка-ливерка, а люди, особенно пенсионеры, возмутились: отдай нам наше!

Все правильно, все понимают собственную выгоду вполне адекватно. Но колбасы от этого больше не становится.

## Окорока в эфире

Потому что слон — это мышь, изготовленная по госзаказу. Во многом объемные показатели экономики Беларуси формируются за счет приписок. Об этом легко догадаться, сопоставив «плюсы» по молоку и мясу со скудеющим ассортиментом гастрономов. Но для нас важнее официальное подтверждение факта приписок, сделанное Госконтролем по результатам проверок — преувеличение хозяйственных побед стало массовым.

И парадокса в этом никакого нет: условия обязывают. На дутых цифрах концентрируются интересы высшей власти, чтобы показать миру процветающую Беларусь, хозяйственников, чтобы вконец не разориться и удержаться в кресле, вертикальщиков, чтобы создать иллюзию эффективности принимаемых ими решений. Ну что сделаешь, есть такая игра «жмурки» и играют в нее по правилам с завязанными глазами.

При Хрущеве народ говаривал: «Если хочешь, чтобы холодильник наполнился, подключи его к радиосети». У нас, судя по всему, холодильники надо оснащать телевизионными антеннами. Эксперимент можно начинать уже сегодня, поскольку Лукашенко проводит совещание по вопросам ценообразования, где (он такой!) обязательно расскажет о кисельных реках в молочных берегах. Авось и в наш холодильник что-нибудь прольется и просыпится.

---

ПОШТА

## Просьба пенсионерки

Уважаемая редакция, я очень прошу поместить моё обращение к президенту Лукашенко, потому что он окружил себя охраной и никого не принимает к себе. Я очень хочу, чтобы это сделали как можно быстрее. Может, он не всегда читает вашу газету. Но только боюсь, что это дорого будет стоить? А может, вы сделаете мне скидку как самой несчастной пенсионерке в Беларуси? Я всю жизнь одна работала и собирала деньги на учебу и квартиру дочери, а получилось, что эти деньги ушли кому-то на доллары за границу, а мы с дочкой остались нищими. Я вам позвоню числа 14—15, может, вы мне скажете, можно ли мое обращение опубликовать и сколько это будет стоить?

**О.КОЗЛЯКОВСКАЯ**

***От редакции:***
***Ольга Михайловна! Обращения к президенту газета публикует бесплатно.***

*«Президенту Республики Беларусь*

*Уважаемый Александр Григорьевич, я, как сегодня, Вас вижу на экране телевизора, когда Вы стояли, положив руку на сердце, и просили проголосовать за Вас во время предвыборной кампании. Вам так нужна была власть. Вы тогда нам много чего обещали. А получив эту власть, Вы обо всем, что обещали, забыли. Поэтому я очень прошу Вас, положив руку на сердце, уделите 10 минут своего времени и выслушайте меня или прочитайте мое письмо. Я несколько раз его приносила в приемную, но Ваша охрана меня все отправляла к людям, которые верят словам, а не печати и подписи руководителя.*

*Поэтому я еще хочу услышать или увидеть на бумаге последнее Ваше слово.*

*Пенсионерка* **О.М.КОЗЛЯКОВСКАЯ,**
*г.Пинск, ул.Первомайская, д.157, кв.38*

# «Пагоня» да «Дня Волі»

Суполка «Пагоня» ладзіць выставу да ўгодкаў абвяшчэння Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ўжо дзевяты раз. Дэвіз усіх выставаў — «Адраджэнне». Будучыя даследнікі беларускага мастацтва канца Х стагоддзя не абмінуць суполку ўвагаю. Яны, хутчэй за ўсё, напішуць, што ўтварылася «Пагоня» невыпадкова, што ў дзейнасці суполкі адлюстраваліся прагрэсіўныя тэндэнцыі, што абапіраліся сябры суполкі на нацыянальную традыцыю — усё гэта дае «Пагоні» права на годнае месца ў гісторыі.

Сёння «Пагоня» такая ж жыццядольная, як і ў 1991 годзе, калі ладзілася першая выстава. Ды ўсё ж на вернісажы я не мог пазбавіцца думкі, што хацеў бы, каб гэтая выстава стала для суполкі... апошняю. Не, я не жадаю маім сябрам і калегам кепскага. Я не хачу, каб творчае аб'яднанне стала ахвяраю бюракратычнага самавольства і было юрыдычна знішчана праз папулярную ў беларускай наменклатуры «перарэгістрацыю». Тым болей я не жадаю, каб нацыянальна арыентаванае мастацтва ўлада загнала ў «андэграунд».

Я хачу, каб выставы да Дня Волі перасталі быць надзвычайнымі падзеямі. Каб слова «Адраджэнне» (дэвіз «Пагоні») перастала быць заклікам да барацьбы і ўспрымалася як канстатацыя беларускай рэчаіснасці. На жаль, да гэтага далёка. У пазамінулым годзе па экспазіцыі прайшлася цэнзура; летась суполцы не далі магчымасці правесці выставу ў Палацы мастацтва, і замест адной вялікай выставы давялося зрабіць некалькі маленькіх у розных гарадах Беларусі — эфект, зразумела, не той... Сёлета Палац далі, але толькі на тыдзень, пачынаючы з 11 сакавіка — бо 25 сакавіка, у дзень традыцыйных «пагонеўскіх» вернісажаў, у Палацы мастацтва запланавана адкрыццё выставы мастакоў з Расіі, з Ніжняга Ноўгарада. Калі не ведаеш пэўна, дзе і калі адбудзецца выстава і ці адбудзецца яна ўвогуле — творчыя пытанні самі сабою адыходзяць на другі план, галоўнымі становяцца арганізацыйныя праблемы. Улада навязвае «Пагоні» пэўны стыль паводзінаў і, скажам шчыра, стрымлівае развіццё творчага патэнцыялу сяброў суполкі. Бо калі мастак робіць справу за палітыка і замест таго, каб самаўдасканальвацца, «рэагуе», то на чарговы «рэферэндум», то на «інтэграцыйныя» памкненні ўрада — дык яго рана ці позна ў прафесійным сэнсе абыходзяць абыякавыя да палітыкі калегі. Сябры «Пагоні», мабыць, адчуваюць гэтую небяспеку. І таму ад выставы к выставе становіцца ўсё меней твораў дэкларацыйна-прасталінейных, якія не столькі прапагандуюць, як дыскрэдытуюць нацыянальную ідэю. Усё болей твораў філасофскага зместу, разлічаных на ўдумлівага гледача. Але пры гэтым на выставе «Пагоні» абавязкова прысутнічае актуальная інсталяцыя, сатырычная графіка, жывапіс «соц-артаўскага» кшталту. Гэтым разам інсталяцыя ўяўляе сабою вялізарную мышабойку, аздобленую сілуэтам Маскоўскага крамля. З сырам Расійскім па «дагаварной цане».



Мастачка М. Бацюкова і мастацтвазнаўца Л.Фінкельштэйн

Для гледача «звычайнага» (у адрозненне ад «нацыянальна арыентаванага») найбольш цікавы раздзел выставы — дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва (кераміка, метал, ткацтва, па-мастацку апрацаваная скура). Высокі ўзровень мае графіка. Якраз графікі і дэманструюць здольнасць бачыць глыбокі сэнс у звычайных праявах жыцця. Менавіта графіку «Пагоні» я маю на ўвазе, калі кажу, што новую тэндэнцыю: грамадзянская пазіцыя і палітычная заангажаванасць не павінна перашкаджаць мастаку быць творцам.




М.Бусел. «Пагоня»

Жывапіс на выставе прадстаўлены вядомымі імёнамі, але часам у нязвыклай якасці. Праўда, трэба адзначыць, што ў Беларусі жывапіс бадай кансерватыўны від мастацтва, найменш адкрыты для навацыяў. Жывапісцы «Пагоні» ў гэтым сэнсе не выключэнне, хоць іхні прафесіяналізм пад сумненне ставіць не даводзіцца.

Скульптуры не шмат, і яна даволі традыцыйная. Сёлетняя выстава «Пагоні» ўяўляе сабою люстэрка нашай сацыяльна-культурнай сітуацыі: у нас спыніўся час, сёй-той спрабуе «запусціць гадзіннік», большасць — хто абыякава, хто з ненавісцю — назірае за ягонымі высілкамі. Ні для каго не сакрэт напружаныя стасункі «Пагоні» з Беларускім саюзам мастакоў, міністэрствам культуры, іншымі наменклатурнымі ўтварэннямі.

Але ж гэтая выстава і люстэрка ўнутраных праблемаў суполкі. Усе амаль дзесяць гадоў існавання «Пагоня» вырашае адну і тую ж праблему: як суаднесці дэмакратызм і кампетэнцыю. У «Пагоні» няма выстаўкама, няма ўнутранай цэнзуры — кожны сябра суполкі можа выставіць у агульнай экспазіцыі твор, які сам палічыць патрэбным. У агульных інтарэсах павінен быць пэўны адбор. Значыць, непазбежна складваецца група лідэраў, якія і «выцягваюць» кожную выставу. І тыя, хто стварае «фон». А гэта ўжо не надта дэмакратычна.



Ю.Гудзіновіч. Гусарскі даспех XVII ст. Рэканструкцыя. Сталь

Мастацкія акцыі «Пагоні» бываюць больш і менш удалымі. Гэтая выстава — не з горшых, хоць можна было б і лепей. Сябры суполкі робяць няўдзячную працу. У той час, як немалая частка творчай інтэлігенцыі адкрыта супрацоўнічае з рэжымам, «Пагоня» ўжо адным фактам свайго існавання ратуе гонар нацыі.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*БЕЛАРУСКАЯ ІДЭЯ*

# Патрэбны гарант Канстытуцыі

Сярод слушных разважанняў Ю.Хадыкі па праблемах адраджэння сучаснай беларускай самасвядомасці (НАВІНЫ №№ 20—22, 24 за 1999 г.) мяне найбольш зацікавіла спроба аўтара класіфікаваць нацыянальную ідэю пры дапамозе трох паняццяў, якія акрэсліваюць адносіны да рэлігіі, дзяржаўнага ўладкавання і асноўнай адметнай рысы характару нацыі. Хацелася б выказаць некалькі заўвагаў.

Згодна з класіфікацыяй аўтара, па прыкладах, апісаных у артыкуле, можна скласці наступную схему:

| | | |
|---|---|---|
| Рускія | Палякі | Беларусы |
| Праваслаўе | Каталіцызм | Талерантнасць |
| Самадзяржаўе | Рэспубліка (Паспалітасць) | Дэмакратыя |
| Народнасць (Саборнасць) | Годнасць (Салідарнасць) | Талака |

Натуральна, першы радок не вызывае пярэчанняў. Але з астатнімі ўзнікаюць складанасці. У цяперашняй Расіі не шмат знойдзецца рускіх, якія назавуць цяперашні расійскі строй самадзяржаўем, ці гатовыя імкнуцца да яго стварэння. Самадзяржаўе патрабуе моцнай дзяржаўнай улады Самадзержца, — які кантралюе ўсю ўладу ў краіне і з'яўляецца адзінай вырашальнай дамінантай дзяржаўнага жыцця. Але мы назіраем, што ў Расіі не існуе нават больш-менш моцнай цэнтралізаванай улады, і падобна, што ўладным элітам такое становішча даспадобы. Там існуе Царства, з царскай уладай у Крамлі. Цар можа быць добры ці дрэнны, разумны ці не вельмі, але ён існуе ў свядомасці народа як нейкі казачны персанаж — намінальны галава дзяржавы, які можа нават не кіраваць краінай («не царская гэта справа»), а займацца чым пажадае. Кіраваць дзяржавай Цар з лёгкасцю даручае фаварытам альбо наогул нікому, і тады ў Расіі пачынаюцца «смутныя часы» барацьбы за ўладу. Што якраз адбываецца там сёння.

Калі разглядаць нацыянальную ідэю палякаў, дык усё ж найперш трэба паставіць Паспалітасць, як гістарычна сфармаваны лад кіравання Польшчай. У Польшчы была і каралеўская ўлада, і рэспублікі, але лад кіравання ўсё роўна быў Паспаліты. І гэта з'яўляецца нацыянальнай асаблівасцю Польшчы.

Аўтар у артыкулах выказвае і свае пажаданні да фармулёўкі беларускай ідэі. Але сама ідэя можа быць сфармуляваная не толькі як сума нейкага мноства пажаданняў. Ідэя з'яўляецца сканцэнтраваным сінтэзам мараў, жаданняў, імкненняў, волі і гістарычнага вопыту асноўнай масы прадстаўнікоў нейкай нацыі. У дадзеным выпадку — беларусаў. І калі з талерантнасцю беларусаў усе згодныя, то такі тэрмін, як «Талака», вызывае здзіўленне. Ці з'яўляецца «Талака» адметнай рысай беларусаў як нацыі? Кожны год у верасні мне звоняць мае знаёмыя, чые дзеці ці ўнукі ідуць у першы клас, і пытаюцца, што гэта за такая «талака», пра якую дзіцяці расказвалі ў школе, а ён нічога не зразумеў. Адзін мой знаёмы, які заглянуў у тлумачальны слоўнік, заявіў, што талака — гэта выган для скаціны, па аналогіі з расійскай «толокой».

Мне здаецца, не трэба баяцца такой рысы беларускага нацыянальнага характару, як памяркоўнасць. Беларуская памяркоўнасць — гэта такая ж адметная рыса нацыі, як і польскі гонар, японская працавітасць, нямецкая дакладнасць, англійскі снабізм ці габрэйская меркантыльнасць. Гэтыя якасці могуць быць і дрэннымі, і станоўчымі, яны, магчыма, у чыстым выглядзе нават не ўласцівыя кожнай канкрэтнай нацыі, але яны цвёрда замацаваліся ў свядомасці прадстаўнікоў самой нацыі і ў суседзяў. Задача, каб гэтая ўласцівасць была болей станоўчай, чым адмоўнай. Чым, як не памяркоўнасцю, можна растлумачыць, што за ўвесь час існавання РБ сярод беларусаў з'явіўся толькі адзін ярка выражаны харызматычны лідэр? Што, як не памяркоўнасць, стрымлівае нас ад рэзкіх грамадскіх зрухаў, і адкуль у нас такое абвостранае пачуццё сацыяльнай справядлівасці і вера ў чалавека, які прыйдзе і па-чалавечы (па-хрысціянску) з усім разбярэцца! Адсюль, з нашай памяркоўнасці, вынікае, што дзяржаўнае ўладкаванне, тут я згодны з Ю. Хадыкам, у нас павінна быць дэмакратыяй. Але не проста дэмакратыяй — ужо шмат пакаленняў беларусаў не ведала сапраўднай дэмакратыі — а дэмакратыяй, якая найбольш адпавядае нашаму нацыянальнаму характару.

Акрамя таго, любая нацыя хваравіта развітваецца з дыктатурай. Дэмакратыя напачатку яшчэ не дасканалая і кволая, патрэбны гарант, які б змог быць апірышчам дэмакратыі. У свеце ёсць прыклады такіх дзяржаўных утварэнняў. Іспанія, дзе кароль змог прадухіліць фашысцкі путч. ФРГ з прэзідэнтам на чале, пра існаванне якога многія нават не ведаюць, але які аказвае не меншы ўплыў на грамадскае жыццё, чым канцлер. Джавахарлал Нэру —духоўны лідэр Індыі, і г.д. Таму я лічу, што на Беларусі патрэбны такі дзяржаўны інстытут, які стаў бы гарантам дэмакратыі ў краіне. І ўзначальваць яго павінен такі чалавек, які з'яўляецца ўзорам сумлення для нацыі, яе сімвалам. Як будзе называцца яго пасада, не важна — галоўнае, каб ён меў права і магчымасці ў выпадку пагрозы дэмакратыі ў краіне стаць на яе абарону. Гарант Дэмакратыі павінен выбірацца на працяглы тэрмін, калі не пажыццёва.

Гарант Дэмакратыі не павінен мець заканадаўчай і выканаўчай улады, яго задача — сачыць, каб усе дзяржаўныя органы працавалі на карысць дзяржавы і нацыі. Болей таго, яго правы ўмяшання ў дзяржаўнае і грамадскае жыццё павінны быць вельмі абмежаваныя, галоўная яго сіла — давер народа. Канешне, такога чалавека знайсці няпроста, але на Беларусі можна акрэсліць так: заўсёды жылі, жывуць і будуць жыць такія людзі, адзін з іх — Васіль Быкаў.

Такім чынам, фармулёўку беларускай нацыянальнай ідэі можна акрэсліць так: Талерантнасць, Гарантаваная Дэмакратыя, Памяркоўнасць.

**Ю.ДАВІДЗЮК**

